ГА «БЕЛАРУСКАЯ
АСАЦЫЯЦЫЯ
ЖУРНАЛІСТАЎ»

WWW.BAJ.BY

# СМІ Ў БЕЛАРУСІ

ЭЛЕКТРОННЫ
БЮЛЕТЭНЬ

2014

## Парушэнні свабоды слова ў Беларусі ў 2014 годзе (агляд)



**У 2014 годзе беларускія ўлады захавалі вектар на значнае абмежаванне свабоды слова, застасоўваючы дзеля гэтага як заканадаўчыя рамкі, гэтак і новыя метады ціску на журналістаў і СМІ.**

Прававое рэгуляванне ў сферы свабоды слова сталася яшчэ больш жорсткім у выніку экстранага ўнясення ў снежні 2014 г. паправак ва ўжо недэмакратычны закон "Аб сродках масавай інфармацыі".

Гэтыя папраўкі:

- **пагоршылі ўмовы дзейнасці традыцыйных СМІ;**
- **узмацнілі кантроль за распаўсюднікамі сродкаў масавай інфармацыі (пачынаючы ад патрабавання іх рэгістрацыі ў Міністэрстве інфармацыі да магчымасці застасавання да іх санкцыяў, аж да забароны на распаўсюд СМІ);**
- **усклалі на ўладальнікаў навінавых сайтаў адказнасць за змест матэрыялаў на іх рэсурсах;**
- **надалі магчымасць Міністэрству інфармацыі блакаваць Інтэрнэт-рэсурсы ў пазасудовым парадку нават за аднаразовае парушэнне (на думку міністэрства) заканадаўства аб СМІ.**

Агульную ацэнку зменаў і дапаўненняў у Закон аб СМІ зрабіла Прадстаўнік АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Дуня Міятавіч у звароце да беларускіх уладаў: *"Гэтыя папраўкі грунтуюцца на няпэўна сфармуляваных прававых палажэннях і даюць дзяржаве шырокія правы для ўмяшальніцтва ў размяшчэнне любой інфармацыі ў інтэрнэце. Яны таксама прымушаюць распаўсюднікаў інфармацыі задзейнічаць самацэнзуру"*.

У правапрымяняльнай практыцы ў сферы СМІ доўгі час захоўваліся тэндэнцыі, якія праявіліся яшчэ напрыканцы 2012 г. Яна заставалася скрайне неспрыяльнай для журналісцкай дзейнасці, аднак рэпрэсіяў у дачыненні да журналістаў і медыяў (закрыццё СМІ, узбуджэнне крымінальных справаў супраць журналістаў і да т.п.) не было.

Асноўнымі праблемамі заставаліся:

- **дазвольны парадак рэгістрацыі СМІ (паводле афіцыйных дадзеных, з 2010 г. па 2011 г. Міністэрства інфармацыі адмовіла 105 разоў заснавальнікам СМІ ў рэгістрацыі);**
- **затрыманні журналістаў прадстаўнікамі сілавых структураў;**
- **стварэнне перашкодаў дзейнасці журналістаў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі медыямі;**
- **абмежаванне доступу журналістаў да інфармацыі;**
- **эканамічная дыскрымінацыя незалежных СМІ.**

Становішча пачало абвастрацца ў красавіку 2014 года. Тады ў дачыненні да рэпарцёраў, чые імёны і матэрыялы з'яўляліся ў замежных СМІ, улады ўпершыню пачалі выкарыстоўваць артыкул 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, якая вызначае адказнасць за "незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ". Да незаконнага вырабу прадукцыі СМІ міліцыя і суды прыраўнялі падрыхтоўку матэрыялаў для замежных СМІ беларускімі журналістамі, што не маюць акрэдытацыі Міністэрства замежных спраў. Тройчы за год прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу гарадзенскі журналіст Андрэй Мялешка, двойчы – Алесь Залеўскі. Размяшчэнне журналісцкага матэрыялу на сайце "Дойчэ вэлле" для магілёўскага журналіста Аляксандра Буракова скончылася





судовымі слуханнямі, выклікамі ў падатковую інспекцыю, "аглядамі" (фактычна ператрусамі) у кватэрах журналіста і яго бацькоў, выняццем кампутараў, флэшак, сістэмных блокаў. Вобшукі адбываліся ў дзень візіту ў Беларусь прадстаўніка АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Дуні Міятавіч. Журналіст быў абвінавачаны ў працы без акрэдытацыі. Пазней ён быў аштрафаваны судом.

Усяго з красавіка па абвінавачанні ў працы ў інтарэсах замежных СМІ без акрэдытацыі ў Беларусі было ўзбуджана 14 адміністрацыйных справаў, 11 з якіх скончыліся для журналістаў штрафамі (тры справы былі закрытыя ў сувязі са сканчэннем тэрміну даўнасці). Ва ўсіх выпадках падставай для прыцягнення да адказнасці быў не змест журналісцкіх матэрыялаў, а сам факт размяшчэння іх у замежных СМІ.

Сярод станоўчых зменаў у 2014 г. магчыма адзначыць некаторае скарачэнне выпадкаў затрымання журналістаў. БАЖ зафіксаваў 29 такіх выпадкаў, у той час як у 2013 г. адбылося каля 50 затрыманняў журналістаў у сувязі з выкананнем імі службовых абавязкаў, а пік затрыманняў прыйшоўся на паслявыбарчы і крызісны 2011 год, на працягу якога былі затрымліваліся 160 журналістаў.

Не затрымліваліся, аднак былі прыцягнутыя да адказнасці пастфактум віцебскія журналісты і актывісты БАЖ. 5 лістапада ў падтрымку кампаніі "Паўстанем за журналістыку", ініцыяванай Еўрапейскай федэрацыяй журналістаў, яны сфатаграфаваліся на фоне старога будынка з вядомым гарадскім графіці – вывяай клетак, з якіх вылятаюць зробленыя з газеты птушкі. Фатаздымкі былі размешчаныя на сайтах. Гэта і спрычыніла рэпрэсіі. Сямёра ўдзельнікаў фотасесіі прайшлі праз суды і былі аштрафаваныя па абвінавачанні ва ўдзеле ў несанкцыянаванай акцыі.



Паводле такога ж абвінавачання быў аштрафаваны гарадзенскі журналіст Міхаіл Карневіч – акрэдытаваны ў Беларусі карэспандэнт «Радыё Свабода», які вёў рэпартаж з акцыі, прысвечанай ушанаванню памяці народнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага. У пратаколе міліцыі ўтрымліваецца наступная фармулёўка: «Знаходзіўся побач з помнікам і перасоўваўся ў складзе арганізаванай групы».

**Агульная сума штрафаў, спагнаных з журналістаў і распаўсюднікаў друкаванай прадукцыі на працягу года, дасягнула 105 мільёнаў беларускіх рублёў (каля 10000 даляраў ЗША). У тым ліку з журналістаў, якія супрацоўчалі з замежнымі СМІ, спагналі 52 мільёны 050 тысячаў беларускіх рублёў, з журналістаў, якіх абвінавацілі ва "ўдзеле ў несанкцыяваных мерапрыемствах" – 21 мільён 450 тысячаў беларускіх рублёў, а з распаўсюднікаў друкаванай прадукцыі – 25 мільёнаў 500 тысяч беларускіх рублёў.**

## У 2014 Г. БЫЛО ЎЗБУДЖАНА НЕКАЛЬКІ КРЫМІНАЛЬНЫХ СПРАВАЎ, ЗВЯЗАНЫХ СА СВАБОДАЙ ДУМКІ



У лютым сталася вядомым пра ўзбуджэнне пракуратурай Бабруска крымінальнай справы паводле факту абразы прадстаўніка ўлады ў асабістым блогу Алега Жалнова (арт. 369 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь). У паведамленні УУС Магілёўскага аблвыканкама казалася, што на працягу 2012-2013 гадоў на асабістым сайце "Блог Алега Жалнова" быў апублікаваны шэраг абразлівых матэрыялаў у дачыненні да супрацоўніка міліцыі.

Пазней супраць жонкі і сына блогера былі ўзбуджаныя яшчэ дзве крымінальныя справы. Сын блогера быў асуджаны паводле артыкула 364 КК РБ "Гвалт або пагроза застасавання гвалту ў дачыненні да супрацоўніка органаў унутраных спраў" да трох год зняволення ў выпраўленчай калоніі адкрытага тыпу і штрафу ў 50 мільёнаў рублёў (на той момант трохі менш за 5 тысячаў даляраў).

Міжнародная арганізацыя “Рэпарцёры без межаў” выказала пратэст у сувязі з гэтым прысудам: *“Няздольныя прымусіць Алега Жалнова (блогера, які займаецца выкрыццём парушэнняў мясцовых органаў улады) замаўчаць, улады цяпер засяродзіліся на ягоным сыне... Мы выказваем шкадаванне з прычыны прыняцця гэтага рашэння, якое пакідае беспакаранай мясцовую міліцыю, і звяртаемся ў суд з просьбай перагледзець рашэнне падчас апеляцыі».* «Рэпарцёры» нагадалі, што Беларусь з'яўляецца 157-ай па ліку з 180 краінаў, прысутных у складзеным гэтай арганізацыяй Індэксе свабоды прэсы за 2014 г.



19 чэрвеня была ўзбуджана крымінальная справа за абразу Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (ч.2 арт.368 КК РБ) у адносінах да 68-гадовай Кацярыны Садоўскай. Падставай для гэтага стаўся яе запіс у кнізе заўвагаў і прапаноў суда Савецкага раёна г.Мінска. У запісе Садоўская выказала абурэнне з прычыны неабгрунтаваных арыштаў палітычных актывістаў напярэдадні чэмпіяната свету па хакеі з выкарыстаннем, на думку следства, «абразлівых словаў, словазлучэнняў і фразаў, якія ўтрымліваюць прыніжальную і непрыстойную ацэнку Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь».



**Найбольшы грамадскі розгалас выклікала ўзбуджэнне ў лістападзе крымінальнай справы ў адносінах да ваеннага аглядальніка газеты “Беларусы і рынак” Аляксандра Алесіна. Журналіст быў арыштаваны 25 лістапада і абвінавачаны ў здрадзе дзяржаве (арт. 356 КК РБ) і ўсталяванні супрацоўніцтва са спецыяльнай службай органаў бяспекі або разведвальным органам замежнай дзяржавы (арт. 356-1). 10 снежня адно з абвінавачанняў (у здрадзе дзяржаве) было скасаванае, і А.Алесін быў вызвалены з-пад варты пад падпіску аб нявыездзе.**

Пагоршылася становішча з Інтэрнэтам, які ўсё яшчэ застаецца найбольш свабодным сегментам інфармацыйнай прасторы Беларусі. У выніку ўнясення ў снежні паправак у закон “Аб сродках масавай інфармацыі” Міністэрства інфармацыі атрымала магчымасць у пазасудовым парадку блакаваць дзейнасць

сайтаў за размяшчэнне інфармацыі, забароненай для распаўсюду. Пры гэтым спіс “забароненай да распаўсюду інфармацыі” быў пашыраны і цяпер уключае ў сябе, сярод іншага, інфармацыю, распаўсюд якой здольны нанесці шкоду інтарэсам Рэспублікі Беларусь.




Дзесяць інфармацыйных Інтэрнэт-рэсурсаў былі заблакаваныя ў Беларусі яшчэ да ўступлення папраўак у Закон аб СМІ ў сілу. Толькі ў адным выпадку дзяржава ўзяла на сябе адказнасць за гэта, абвінаваціўшы партал onliner.by у парушэнні правілаў інтэрнэт-гандлю. Тым не менш, ёсць усе падставы лічыць, што блакаванне сайтаў было ініцыяванае ўладамі і, па ўсёй верагоднасці, звязана з рэзкім скачком зацікаўленасці беларусаў у аб’ектыўнай інфармацыі ва ўмовах валютнага крызісу ў краіне. Таксама эксперты адзначаюць, што дадзенае блакаванне можа быць пэўнага кшталту трэніроўкай напярэдадні надыходзячай выбарчай прэзідэнцкай кампаніі ў 2015 годзе.

**Такім чынам, становішча ў галіне СМІ ў Беларусі напрыканцы 2014 года пагоршылася. Звязана гэта не толькі з застасаваннем больш жорсткай праваприымяняльнай практыкі, якая мае цыклічны характар у залежнасці ад электаральных кампаніяў і іншых грамадска значных падзеяў, уключаючы эканамічныя крызісы, але і з сістэмнымі зменамі заканадаўства ў бок узмацнення дзяржаўнага кантролю ў сферы СМІ. Прычым абсяг гэтага кантролю ўсё больш пашыраецца і распаўсюджваецца не толькі на традыцыйныя медыі, але і на Інтэрнэт, кнігавыдавецкую дзейнасць і распаўсюд друкаванай прадукцыі.**

